№ 14(137)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Жнівень 2012 г.

## ЛАХАТРОН ПРАЦЯГВАЕЦЦА




Амаль заўсёды, калі я заходжу з па якім-небудзь пытанні ў аддзяленне аднаго з двух нашых бялыніцкіх банкаў, супрацоўніцы гэтых паважаных устаноў настойліва рэкамендуюць набыць мне розныя латарэйныя білеты. Калі ж я ветліва адмаўляюсь (а адмаўляюсь я заўсёды), некаторыя мілыя жанчыны, якія не зусім добра мяне ведаюць, пачынаюць спакушаць чакаемым выйгрышам. Ад выйгрыша я таксама адмаўляюсь, але на работнікаў банкаў не крыўдую – рабіць нас "лохамі" іх прымушае больш высокае кіраўніцтва з гэтых жа банкаўскіх устаноў. Чаму ж нашы банкі так палюбілі латарэі, запытаецеся вы, паважаныя чытачы? А адказ вельмі просты: абсалютная большасць беларускіх латарэй належыць Кіраўніцтву справамі прэзідэнта і даход ад усяго гэтага лахатрона ідзе нашым "бедным" чыноўнікам, ну а яны ведаюць, з кім патрэбна падзяліцца. Днямі тэлеканал "Белсат" у рэпартажы "Сацыяльны здзек: 41 латарэя ва ўласнасці прэзідэнцкага апарату" крыху распавёў пра беларускі лахатрон.

### Тут таксама можна выйграць кватэру

У Беларусі каля паўсотні латарэяў заснавала Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Беларускія латарэі». Установа ўжо 13 гадоў «ходзіць» пад Кіраўніцтвам справамі прэзідэнта Беларусі.

### Апетыты растуць

За 13 гадоў існавання «Беларускіх латарэяў» апетыты прадпрыемства істотна выраслі. На сайце Кіраўніцтва справамі прэзідэнта паведамляюць http://pmrb.gov.by/?id=410, што іх дзецішча заснавала толькі 26 латарэяў. Нядаўна апублікаваны http://www.minfin.gov.by/data/zocznak/gos_reestr_blank.zip дзяржаўны рэестр бланкаў строгай адказнасці кажа, што «Беларускім латарэям» належыць 41 тыражная, імгненная і грашова-рэчавая латарэя.

Сёння гэтая ўстанова – «найбуйнейшы арганізатар рэспубліканскіх і мясцовых латарэяў». Пра гэта БЛ ганарліва пішуць http://belloto.by/jobs/vacansy-all/ на ўласным сайце. «Грашовыя сродкі накіроўваюцца на найбольш важныя сацыяльныя праграмы ў рэспубліканскі і мясцовыя бюджэты», – кажа заснавальнік латарэйнага манапаліста, Кіраўніцтва справамі прэзідэнта. Аднак у рэспубліканскім бюджэце на 2012 год http://pravo.by/main.aspx?guid=3871&p2=2/1883 пра гэта няма ніводнага слова.

### Ад коткі да сланоў

У арсенал прэзідэнцкай манаполіі ўваходзяць латарэі на любы густ. Са стрыманымі назвамі: «Турысцкая», «Вясенняя», «Юбілейная». З назвамі ідэйна-патрыятычнымі: «Перамога», «Дажынкі», «Гамяльчанка». З прафесійнымі найменнямі: «150 гадоў пажарнай службе», «Святочная. 100 гадоў прафсаюзам», «За бяспеку». Таксама ёсць латарэі па інтарэсах: «Алімпійская», «Міг поспеху: слон і коткі», «Казіно» і г. д.

*(Заканчэнне на стар. 2)*

## У ШКЛОЎСКАЙ ВЫПРАЎЛЕНЧАЙ КАЛОНІІ № 17 ПАЧАЛАСЬ АМНІСТЫЯ

У Шклоўскай ВК № 17 прыступілі к правядзенню амністыі зняволеных згодна Закона "Аб амністыі некаторых катэгорый асобаў, здзейснеўшых злачынствы", які ўступіў у сілу пасля афіцыйнага апублікавання з 11 ліпеня.

Першае пасяджэнне камісіі па амністыі ВК № 17, якую ўзначальвае начальнік гэтай уставы Сяргей Ермаліцкі, адбылось 18 ліпеня. На мінулым тыдні першыя зняволеныя ВК № 17, якія патрапілі пад дзеянне Закона аб амністыі, былі вызвалены на волю. Некаторым з зняволеных тэрміны адбыцця пакарання зніжаны на адзін год.

Згодна інфармацыі з заслугоўваючых даверу крыніц, усяго ў Шклоўскай выпраўленчай калоніі № 17 пад амністыю пападуць каля 610 асуджаных.

Нагадаем, што ў ВК № 17 адбывае пакаранне беларускі палітвязень, асуджаны па "справе анархістаў", Мікалай Дзядок. Па словах аднаго з супрацоўнікаў калоніі, Мікалай Дзядок адносіцца да асобаў, здзейснеўшых злачынствы, якія ўяўляюць вялікую грамадскую небяспеку, таму амністыя на яго распаўсюджвацца не будзе.

Раней у Шклоўскай ВК № 17 адбывалі пакаранне цэлы шэраг беларускіх палітвязняў,

*(Заканч. на стар. 2)*



# ЛАХАТРОН ПРАЦЯГВАЕЦЦА



(Заканч. Пачатак на стар. 1)

## Цынічны бізнес з разлікам на правінцыялаў

Эканаміст Леанід Заіка да латарэяў ставіцца скептычна. Ён толькі аднойчы атрымаў штосьці каля 20 долараў у савецкія часы. Тады латарэі распаўсюджвалі камсамольскія працаўнікі – пагрозамі або «марудзжаннем». На выйгранку прафесар набыў срэбную лыжачку для дачкі.

«Латарэі – гэта звычайны бізнес. Ён ёсць і ў ЗША, і ў Кітаі. За кошт гэтага бізнесу жыве шэраг чыноўнікаў. Вядома, ідуць мікраскапічныя паступленні ў бюджэт, на якія не варта звяртаць увагі», – кажа ён.

На думку эксперта, у Беларусі латарэі перасталі быць відам забавы. Іх стваральнікі прыбягаюць да сацыяльнай няпраўды, калі абяцаюць кватэру за $ 70 тыс. людзям, чые заробкі не большыя за $ 300. Шмат для якіх беларусаў латарэі робяцца адзіным шанцам атрымаць прыстойнае жытло.

«Таму латарэі купляюць адзінокія жанчыны з дзецьмі. Мігранты, дзяўчаты і хлопчыкі, якія прыехалі з вёскі ды не могуць купіць кватэры, як гэта робіць дачка старшыні мясцовага выканкаму. Гэта форма сацыяльнага здзеку», – мяркуе Леанід Заіка.

Людзі не мусяць атрымліваць кватэры, гэта маюць быць грошы. У савецкія часы можна было матацыкл атрымаць, былі латарэі культуры з кнігамі ў якасці прызоў. На думку эксперта, цяпер у латарэі прыйшлі людзі нікчэмныя, якія «і лазняю кіраваць не ў стане».

Калі па тэлевізары паказваюць пераапранутых рымскіх патрыцыяў і дзяўчат у залатых строях, то гэта скіраванае перадусім на правінцыялаў. На думку Леаніда Заікі, толькі з аднаго гэтага бачна, што такі бізнес разлічаны на сельскага жыхара, які нідзе не быў і нічога не бачыў.

Тэлеканал "Белсат" распавёў пра беларускія латарэі яшчэ вельмі мякка, не назваўшы канкрэтна, хто кіруе самымі папулярнымі з іх. Паверце, ёсць там вельмі цікавыя і гучныя прозвішчы людзей, якія арганізуюць у Беларусі суцэльны лахатрон…

Таму я ніколі не купляю беларускія латарэі, як, дарэчы, і не гуляю ў азартныя гульні ў беларускіх казіно. Грошы я зарабляю не дзеля таго,каб марнаваць іх на "сціплых" беларускіх чыноўнікаў і іх прасунутых у справе "лахатрона" дзетак…

***Сяргей Семяновіч***

### Анекдот дня

Очень многие люди заработали много денег, участвую в розыгрышах белорусских лотерей. Например. их владельцы.

## У ШКЛОЎСКАЙ ВЫПРАЎЛЕНЧАЙ КАЛОНІІ № 17 ПАЧАЛАСЬ АМНІСТЫЯ

(Заканч. Пачатак на стар. 1)

у тым ліку кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года Мікалай Статкевіч. Пазней Мікалай Статкевіч быў пераведзены на больш строгі рэжым утрымання ў Магілёўскую турму № 4. Не трэба было Мікалаю прэтэндаваць на пасаду Аляксандра Рыгоравіча…

Сярод асуджаных Шклоўчай выпраўленчай калоніі № 17 даволі шмат ураджэнцаў нашага Бялыніцкага раёна, некаторыя з іх патрапляюць пад дзеянне Закона аб амністыі і ўжо ў хуткім часе вернуцца дахаты.

Па стану на 6 жніўня ў Беларусі разгледжана пытанне аб ужыванні амністыі ў адносінах да 2850 асуджаных. Усяго пад амністыю падпадаюць 15 032 чалавекі, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі.

«Начальнікамі выпраўленчых установаў зачыненага тыпу вынесены пастановы пра вызваленне ад далейшага адбывання пакарання 491 чалавека. Прынята рашэнне пра скарачэнне тэрміна пакарання на адзін год 884 асуджаным. Адмоўлена ва ўжыванні амністыі 1475 асуджаным», - паведамляе МУС Беларусі.

Акрамя асобаў, якія змяшчаюцца пад варту, закон пра амністыю таксама распаўсюджваецца на асуджаных, да якіх ужыта пакаранне, не звязанае з пазбаўленнем волі. З такой катэгорыі пад амністыю падпадаюць больш 8 тысяч чалавек. Па стане на 6 жніўня 661 асуджаны вызвалены ад далейшага адбывання пакарання, 182 тэрмін скарочаны на 1 год.

***Іван Барысаў***

## Белыничанин сдал патроны в Хотимске

3 августа в 19-00 в помещении Хотимского РОВД житель г.п. Белыничи 1980 г.р. ОДС в рамках СКМ «Арсенал» добровольно выдал 58 патронов времен ВОВ. Проводится проверка.

# РЭЙТЫНГ ЛУКАШЭНКІ ПАЧАЎ ЗНІЖАЦЦА



Зарэгістраваны ў Літве Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледваньняў апублікаваў вынікі чэрвеньскага апытаньня грамадзкай думкі.

«Калі б заўтра зноў адбыліся выбары прэзыдэнта Беларусі, за каго б Вы прагаласавалі?» Прозьвішча кіраўніка дзяржавы паказалі 29.7% рэспандэнтаў

Такім чынам, рост рэйтынгу «адзінага беларускага палітыка», зьвязаней са стабілізацыяй эканамічнай сітуацыі ў краіне, спыніўся і намеціўся зваротны працэс«, — камэнтуюць вынікі апытаньня экспэрты НІСЭПД.

«У чэрвені электаральны рэйтынг Лукашэнкі вярнуўся да свайго значэньня гадавой даўніны, гэта значыць, ўзровень гатоўнасьці галасаваць за кіраўніка дзяржавы ва ўмовах стабільнасьці такі ж, як і год назад у актыўную фазу крызісу».

Незалежны сацыёляг Аляксандар Сасноў, камэнтуючы для «Свабоды» падзеньне рэйтынгу Лукашэнкі, кажа, што тут ёсьць некалькі складнікаў: «Па-першае, тое, што эканамічнае становішча ў краіне трохі выправілася, гэта так. І ў адпаведнасьці з гэтым рэйтынг Лукашэнкі павінны быў некалькі ўзьняцца. Аднак гэтага не атрымалася. Справа ў тым, што ёсьць пэўная няўпэўненасьць у насельніцтва, што далей жыцьцё стане лепшым. Да таго ж на многіх прадпрыемствах сытуацыя дагэтуль нявызначаная — невядома, што тут будзе праз месяц, квартал. Абяцаньні, што будзе 500-даляравы заробак, не паўсюдна выкананыя. Ды людзі яшчэ добра памятаюць, што атрымалася пасьля таго як дасягнулі 500 даляраў напрыканцы 2010 году. Вось гэта няўпэўненасьць і падштурхоўвае часткі насельніцтва адмовіць у даверы лідэру.

Па-другое, адчуваецца стомленасьць насельніцтва ад таго, што краінай доўгі час кіруюць адны і тыя ж людзі.

Па-трэцяе, самаўпраўства сілавых структур у краіне, як кажуць, дастала ўжо шмат каго. І яно таксама зрабіла свой нэгатыўны ўплыў на рэйтынг Лукашэнкі. Яны робяць, што хочуць і ніякіх законаў для сілавікоў не існуе».

# БЯЛЫНІЧЫ: У СКЛАДЗЕ ЎЧАСТКОВЫХ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЙ – ЗНАЁМЫЯ ЎСЁ ТВАРЫ

У Бялыніцкім раёне створана дваццаць участковых выбарчых камісій па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу. Адпаведнае рашэнне аб іх стварэнні за № 17-1 прыняў 7 жніўня Бялыніцкі райвыканкам, а ўжо 8 жніўня яно было апублікаванае ў раённай газеце “Зара над Друццю”.




Колькасны склад участковых выбарчых камісій у Бялыніцкім раёне склаў ад 6 да 17 чалавек. Усяго ў Бялыніцкім раёне ў склад участковых выбарчых камісій увайшло 236 чалавек, абсалютная большасць з якіх ужо працавала ў выбарчых камісіях на мінулых мясцовых, парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбарах. Большая частка членаў участковых выбарчых камісій вылучаліcь ад грамадзян шляхам збору подпісаў і ад працоўных калектываў. Палітычныя партыі ў Бялыніцкім раёне сваіх прадстаўніком у камісіі наогул не вылучалі, як і альтэрнатыўныя грамадскія арганізацыі. Сваіх прадстаўнікоў у складзе ўчастковых выбарчых камісій будуць мець дзяржаўныя прафсаюзы, ветэраны, а таксама ГА “Белая Русь” і БРСМ.

Што цікава, колькасную большасць складу літаральна ўсіх участковых выбарчых камісій у Бялыніцкім раёне складаюць супрацоўнікі разнастайных бюджэтных арганізацый, - работнікі дзяржаўных устаноў, устаноў адукацыі, культуры і медыцынскага абслугоўвання насельніцтва.

Вы яшчэ маеце сумнеў, хто будзе дэпутатам па Шклоўскай выбарчай акрузе № 90? На мой погляд, годная старасць і добры сон у Палаце прадстаўнікоў Аляксандру Віктаравічу ужо даўно забяспечаны…

***Ірына Беганкіна***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# БЕЛОРУССКАЯ ОППОЗИЦИЯ В РЕГИОНАХ НЕ НАДЕЕТСЯ ПОПАСТЬ В ПАРЛАМЕНТ




За полтора месяца до выборов в белорусский парламент активисты оппозиции в регионах убеждены в предсказуемости результатов кампании. В Могилеве никто из оппозиционеров всерьез не рассчитывает стать депутатом.

В рядах белорусской оппозиции в регионах за полтора месяца до выборов в Палату представителей Национального собрания царит апатия и скептицизм. Демократические активисты уверены в предсказуемости избирательной кампании и не горят желанием в ней активно участвовать.

Так, например, в городе Могилеве впервые за всю историю независимой Беларуси оппозиция не закрывает все избирательные округа своими кандидатами, выдвигаемыми путем сбора подписей, - на пять округов приходится четыре потенциальных кандидата. Эксперты отмечают, что в условиях подавления инакомыслия никто не хочет баллотироваться в депутаты парламента. Даже региональные отделения оппозиционных партий не спешат выдвигать своих кандидатов.

## Парламента больше нет

Политическая активность на Могилевщине падает из года в год и, возможно, достигла критического уровня. Так считает руководитель областного отделения движения “За свободу” Александр Силков. Долгое время он был координатором городской коалиции объединенных демократических сил. В регионах такие структуры до сих пор сохранились, несмотря на то, что оппозиционные лидеры в Минске давно уже не могут найти общего языка и добиться консолидации.

Но сегодня ситуация такова, что состав могилевской городской демократической коалиции практически полностью дублирует областную. Сам по себе этот факт - красноречивое свидетельство положения в оппозиционных рядах.

В свою очередь, областная коалиция, принявшая решение заниматься наблюдением за выборами, способна обеспечить качественный контроль над ходом избирательной кампании лишь в трех избирательных округах из тринадцати, расположенных в области.

К апатии оппозиционных активистов добавляется еще и пессимизм избирателей. Двое представителей движения “За свободу” решились поучаствовать в парламентской кампании, но сбор подписей за выдвижение их кандидатами в депутаты идет крайне тяжело.

Александр Силков признает, что люди отказываются ставить подписи, так как не понимают, какое значение имеют выборы в парламент, и сомневаются в том, что депутаты Палаты представителей обладают должными полномочиями. “Складывается ощущение, что парламент как высший орган законодательной власти уже перестал существовать в Беларуси”, - сетует Силков.

## Результаты уже известны

Не верят в свою победу и сами потенциальные кандидаты в депутаты. Активистка гражданской кампании “Говори правду” Оксана Закревская идет на выборы, осознавая, что шансов на победу у нее нет. По выражению Закревской, ей важнее получить дополнительную легальную возможность представить могилевчанам программу “Гражданский договор”, подготовленную полгода назад. Предвыборные пикеты и обход квар-



*Александр Силков*

тир позволяют это сделать.

Подписание горожанами такого договора с активистами кампании “Говори правду”, говорит Закревская, дает возможность последним представлять их интересы, даже не являясь депутатом. После выборов на основании “Гражданского договора” активисты кампании “Говори правду” намерены требовать от власти выполнения ее обязательств перед избирателями.

С “Гражданским договором” идет на выборы и член Белорусской социал-демократической партии (БСДП) “Грамада” Леонид Подберецкий. Его не смущает тот факт, что, будучи человеком партийным, он должен согласовывать свои действия с кампанией “Говори правду”.

## Малочисленны, но опасны

О конкуренции политических программ и идеологий, по мнению Подберецкого, говорить сейчас бессмысленно, а исход выборов уже предрешен. “Властью уже выбран и утвержден весь новый состав Национального собрания”, - уверен Леонид Подберецкий.

Несмотря на малочисленность активистов оппозиции, их действия,

(Окончание на стр. 5)

## Бабушка разоружилась

1 августа в 18-50 в помещении РОВД жительница г.п. Белыничи 1943 г.р. инспектору по РР в рамках СКМ «Арсенал» добровольно выдала охотничье ружье «ТОЗ-БМ», калибра 16 мм. Сотрудниками милиции проводится проверка.

## БЕЛОРУССКАЯ ОППОЗИЦИЯ В РЕГИОНАХ НЕ НАДЕЕТСЯ ПОПАСТЬ В ПАРЛАМЕНТ

*(Оконч. Начало на стр. 4)*



***Оксана Самуйлова***

похоже, все-таки вызывают некоторую настороженность у представителей властей. Такой вывод напрашивается, если судить по поведению силовых структур.

Правозащитники уже зафиксировали случай, когда один из собиравших подписи при обходе квартир был задержан работниками милиции и два часа провел в участке. У могилевчанки Оксаны Самуйловой, баллотирующейся по Бобруйскому избирательному округу, ГАИ временно изъяла автомобиль как раз в момент старта избирательной кампании. В таких условиях оппозиционеры не уверены даже в том, что будут зарегистрированы в качестве кандидатов в депутаты, не говоря уже о победе на выборах.

***Александр Бураков, "Немецкая волна"***

## ВЫДАЎЦЫ "МАЛОЙ ПРЭСЫ" МАГІЛЁЎСКАГА РЭГІЁНА ВЫЗНАЧЫЛІСЯ З АСВЯТЛЕННЕМ ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ

Дыскусія, якую мадэраваў сябра Праўлення ГА "БАЖ" Генадзь Суднік, адбылася ў Магілёве 3-га жніўня.

Выдаўцы і рэдактары 7-і маланакладных газет, якія выходзяць сёлета ў вобласці, вырашылі заставацца "люстэркамі" кампаніі, а не яе ўдзельніцамі.

Рэдактары пагадзіліся, што апошняе накладала б на выданні адпаведныя абавязкі і адданасць пэўнай палітычнай пазіцыі. У той час як задача прэсы падчас выбарчых кампаній заключаецца не ў тым, каб правесці ў дэпутаты таго ці іншага дзеяча, а ў тым, каб дапамагчы выбаршчыкам зрабіць свой свядомы і асэнсаваны выбар.

Праўда, па словах рэдактараў, такая пазіцыя вымагае ад іх пэўнай цвёрдасці і ўмення трымацца прафесійных правілаў. А гэта, на жаль, не заўсёды лёгка зрабіць у тых умовах, у якіх выдаюцца малыя газеты. Як адзначалі Барыс Вырвіч з Бялынічаў, Пётр Мігурскі са Шклова і Мікалай Яцкоў з Магілёўскага раёна, самі гэтыя выданні нярэдка выступаюць суб'ектамі рэгіянальнай грамадскай і палітычнай актыўнасці.




Тым не менш, удзельнікі дыскусіі пагадзіліся, што палітычныя кампаніі мінаюць, а людзі маюць пастаянную патрэбу ў вольным слове і ў праўдзівай інфармацыі пра падзеі ў рэгіёне і ў краіне. І чытацкі давер важна не страціць.

Другой часткай дыскусіі сталася абмеркаванне юрыдычных і прававых аспектаў сёлетняй выбарчай кампаніі - з мэтай не дапусціць у рэгіянальнай "малой прэсе" памылак і парушэнняў, што могуць паставіць пад пытанне самую іх працу. На гэты конт юрыст, старшыня Праўлення Магілёўскага праваабарончага цэнтра Барыс Бухель правёў з рэдактарамі-выдаўцамі практычныя заняткі з разборам найбольш частых прававых калізій.

***Служба маніторынгу ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў"***

## МАГІЛЁЎСКІЯ АКТЫВІСТЫ БХД ПАДАЛІ ДЗВЕ ЗАЯЎКІ НА ПРАВЯДЗЕННЕ ПІКЕТАЎ




Магілёўскі аргкамітэт па стварэнні партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя падаў заяўкі ў адміністрацыю горада на правядзенне 18 і 19 жніўня пікетаў за вызваленні палітвязняў і байкот "выбараў".

"Тэма вызвалення палітвязняў вельмі важная для нашага горада. Магілёў проста ператварыўся ў ссыльны горад Беларусі. Найбольшая колькасць палітвязняў змешчаная менавіта ў турмах Магілёва і Магілёўскай вобласці", - адзначыў намеснік гарадскога каардынатара БХД Алег Аксёнаў.

Нагадаем, што ў Магілёўскай вобласці зняволеныя наступныя палітвязні: Мікола Статкевіч, Мікола Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Павал Сырамалотаў, Алесь Бяляцкі, Сяргей Каваленка.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# У БЕЛАРУСИ ВОЗНИКНУТ СЛОЖНОСТИ С ОПЛАТОЙ ВНЕШНИХ ДОЛГОВ

В 2012 году Беларусь должна заплатить по внешним долгам более полутора миллиардов долларов. Однако, судя по всему, оплачивать обязательства нечем, а крупных внешних кредитов пока не предвидится.

В этом году Беларуси придется выплатить по внешним долгам в общей сложности 1,6 миллиарда долларов. Всего же внешний государственный долг Беларуси на данный момент составляет около 11 миллиардов долларов. В 2013 году страна должна будет обслужить обязательства по внешним долгам на сумму более 3 миллиардов долларов, сообщил министр финансов Беларуси Андрей Харковец.

В свою очередь экс-глава Нацбанка Станислав Богданкевич отмечает, что конкретные сроки погашения Беларусью внешних долгов до сих пор не опубликованы. Крупные долги, по словам Богданкевича, имеются и у коммерческих банков. Положение усугубляют также значительные депозиты нерезидентов Беларуси, готовых в любой момент снять средства со счетов и вывести их из страны.

Кроме того, уже осенью нужно будет погасить кредит "Беларуськалия" в размере 1 миллиарда долларов. Синдицированный кредит в 2011 году предоставил предприятию российский Сбербанк совместно с Евразийским банком реконструкции и развития (ЕБРР). Возникает вопрос: где же правительство собирается брать деньги на погашение заимствований?

## На что надеются власти?

Как отмечает экономист Лев Марголин, сейчас власти надеются на предоставление очередного транша кредита Антикризисного фонда (АКФ) ЕврАзЭС в 440 миллионов долларов. Белорусское руководство уже предупредило АКФ ЕврАзЭС о снижении к 1 октября 2012 года золотовалютных резервов страны до 6,4 миллиарда долларов. Средства планируется направить на погашение



внешних и внутренних обязательств. И тем не менее власти рассчитывают до конца года восстановить резервы до 8 миллиардов долларов. Основные надежды возлагаются на четвертый и пятый транши кредита АКФ.

Однако, по мнению Марголина, всех проблем это не решит. К тому же президент Лукашенко настаивает на увеличении заработной платы бюджетникам до парламентских выборов. Эта акция, считает экономист, сделает выплаты по долгам еще более проблематичными.

Эксперт Либерального клуба Евгений Прейгерман считает, что властям вряд ли стоит рассчитывать на что-то еще, кроме очередного транша кредита АКФ. По словам экономиста, правительство сделало ставку на внешние, в том числе и прямые, инвестиции, но до сих пор существенных подвижек в этом направлении не наблюдается.

Остаются проблемы и с белорусскими евробондами, хотя доходность по ним по сравнению с прошлым годом немного снизилась. По мнению Прейгермана, разместить их на внешних рынках в нынешних условиях будет весьма сложно. Что касается возможных китайских кредитов, то они, как правило, привязаны к конкретным инвестиционным проектам. Поэтому зачислить эти кредиты в золотовалютные резервы практически нереально.

## Внутренние резервы

Власти уже пытаются изыскать какие-либо средства внутри страны. Как говорится в письме Нацбанка и правительства Беларуси на адрес АКФ, в 2012 году планируется повысить тарифы на жилищно-коммунальные услуги до уровня возмещения их себестоимости на 35 процентов. По итогам июня этот показатель составил 23 процента. Также увеличится оплата населением транспортных слуг - с 34,2 процента в Минске и 53 процента в областях до 85 процентов от их себестоимости.

Между тем именно эти требования содержатся в условиях предоставления кредита АКФ наравне с требованиями приватизации госсобственности

*(Окончание на стр. 7)*

# У БЕЛАРУСИ ВОЗНИКНУТ СЛОЖНОСТИ С ОПЛАТОЙ ВНЕШНИХ ДОЛГОВ

*(Оконч. Начало на стр. 6)*

в 2012 году на 2,5 миллиарда долларов. Последнее белорусские власти выполнять не спешат.

## Власти не хотят приватизации

По словам Евгения Прейгермана, именно приватизация является одним из основных способов получения валютных средств. Но после отмены списков предприятий, которые планировалось приватизировать в 2012 году и позднее, трудно сказать, что из госсобственности власти готовы отдать частному сектору. Эксперт считает, что официальный Минск не пойдет на продажу таких гигантов, как "Беларуськалий", поскольку они являются основными поставщиками валюты в казну.

Как полагает экономист Лев Марголин, руководство страны прекрасно понимает, что приватизация может обернуться против него. Потеря экономического влияния означало бы утрату и части политической власти, чего белорусский президент допустить, конечно, не может. "Лукашенко интуитивно боится приватизации, опасаясь потерять командные рычаги в экономике", - уверен Марголин. Однако Россия в лице АКФ будет настаивать на приватизации белорусской госсобственности, прогнозирует экономист.

## На Запад рассчитывать не приходится

Лев Марголин считает, что сегодня официальному Минску не имеет смысла надеяться на помощь со стороны Международного валютного фонда (МВФ), Всемирного банка (ВБ), Европейского банка реконструкции и развития (ЕБРР) и других влиятельных финансовых институтов.

Для такого сотрудничества необходимо выполнить два условия, подчеркивает Марголин. Это реформирование экономики, на чем настаивает и АКФ, а также демократизация. Несмотря на то, что в уставах МВФ и ЕБРР о демократизации не говорится, за конкретные программы голосуют члены совета директоров организации.

А они в свою очередь представляют конкретные страны, где вопросы демократии - не пустой звук. По мнению Станислава Богданкевича, первым шагом на пути к сотрудничеству с международными финансовыми структурами могло бы стать освобождение белорусских политзаключенных.

***DW***

# ПЕНСИОНЕРЫ ОСТАНУТСЯ БЕЗ ДЕНЕГ "НА ОВОЩИ"

В 2012 году неработающим пенсионерам не будет предоставлена материальная помощь на приобретение овощей.

Об этом во время прямой линии "Народной газеты" сообщил замминистра труда и соцзащиты Валерий Ковальков, отвечая на вопрос пенсионера из Барановичей.

По словам замминистра, выплачивать "овощные" пенсионерам не планируется из-за повышения размера пенсий.

– В текущем году перерасчет пенсий производился уже трижды – в феврале, мае и в августе. В среднем размеры пенсий за этот период увеличились на 75 процентов. Очередное повышение ожидается с 1 ноября, – сказал Валерий Ковальков.

Напомним, в сентябре 2011 года бюджетникам, получателям пособий и неработающим пенсионерам выплачивали по Br500 тысяч на приобретение овощей. Из средств республиканского бюджета и Фонда соцзащиты на это было выделено около Br1,7 триллиона.

Люди выстраивались за "овощными" в большие очереди, и наличные деньги заканчивались в почтовых отделениях буквально за считанные часы.

***Народная газета***

# ТАТЬЯНА РЕВЯКО: «ВЫБОРЫ» 2008 ГОДА И НЫНЕШНИЕ – ЭТО НЕБО И ЗЕМЛЯ



***Татьяна Ревяка***

Только проанализировав региональные газеты, можно уже сказать, кто будет в «парламенте».

Правозащитница Татьяна Ревяко рассказала сайту charter97.org, чем отличается обстановка на нынешних «выборах» от предыдущих.

«Если сравнивать политический фон 2008-го года и сегодня, то это небо и земля, очень сильно отличается. Во время прошлых «выборов» освободили политзаключенных, был период либерализации. А сейчас «выборы» проходят в условиях, когда участники предыдущих «выборов» находятся в тюрьмах. Такие «выборы» с самого начала нельзя назвать свободными», - считает правозащитница.

## «Выборы» проходят вяло

«Наблюдаем отсутствие общей стратегии. В общем, «выборы» проходят довольно вяло, мы не видим активности. На прошлых «выборах» в «палатку» было большее количество претендентов на «депутатские» места и было больше возможностей для агитации и сбора подписей. В этом году все регулируется специально подготовленными законами. Фактически, кандидаты в «депутаты» могут проводить агитацию только на задворках», - рассказала правозащитница.

## Ермошина – главный кандидат в «депутаты»

«Мы видим определенный штиль

*(Окончание на стр. 8)*

# ЛЕОНИД ЗАИКО: СТАЛИН ПЕРЕСАЖАЛ БЫ ВСЕХ, КТО УВЕЛИЧИВАЕТ ЗАРПЛАТУ НА 30% ПРИ РОСТЕ ВВП В 3%

Белорусские власти хотят довести рост ВВП до 5% до конца 2012 года, одновременно задекларировав увеличение средней зарплаты по стране до 500 долларов. Эти маниловские прожекты чреваты повторением экономического кризиса 2011 года, предупреждает официальный Минск Антикризисный фонд ЕврАзЭС.

UDF.BY попросил прокомментировать ситуацию руководителя Аналитического центра "Стратегия" Леонида Заико.

*- Минск опять просит денег у Антикризисного фонда ЕврАзЭС. Последний предупреждает, что планы белорусских властей довести до конца года рост ВВП до 5%, а среднюю зарплату – до 500 долларов "снизят конкурентоспособность экономики". Если перевести с Эзопова языка на человеческий – Беларуси предрекают повторение прошлогоднего обвала?*

- Любой профессиональный экономист вам скажет: рост зарплаты на 30% при росте ВВП на 3% - это очень опасный способ экономической политики. При таких высоких издержках на заработную плату снижаются возможности внутренних инвестиций. Такие действия разбалансируют национальную экономику. Ведь если пирог стал на 30% больше, то его и съесть можно на 20, а то и на 30% больше, а если пирог увеличился на 3% - как съесть несуществующие 30%?

*- Вопрос о повторении прошлогоднего сценария некорректен, надо понимать….*




- В Беларуси в прошлом году был интеллектуальный тупик, тупик политики вообще. Есть вещи, которые сделать нельзя вообще. А у нас – можно. Как тот мальчик, который бегает с гранатой с гранатой по квартире: «Счас рвану!». Так и в Беларуси бегают по экономике с гранатой…

Нельзя так безответственно повышать зарплату.

*- Леонид Фёдорович, а как в целом средняя зарплата в 500 долларов скажется на белорусской экономике?*

- Установление уровня зарплаты – объективный процесс. Если в этот процесс вмешивается чиновник – жди беды. Увеличивают зарплату до 500 долларов – килограмм мяса стоит 10 долларов. Так я поеду в соседнюю Польшу – там килограмм мяса стоит 4 доллара! Какой смысл в увеличении зарплаты при одновременном увеличении цен?

Это самый плохой вид деятельности в Советском Союзе. Но при Сталине такое было бы невозможно. Иосиф Виссарионович пересажал бы всех, кто увеличивает зарплату на 30% при росте ВВП в 3%, а самых активных – расстрелял бы. За Иосифом Виссарионовичем у нас было бы правительство расстрелянных…

## ТАТЬЯНА РЕВЯКО: «ВЫБОРЫ» 2008 ГОДА И НЫНЕШНИЕ – ЭТО НЕБО И ЗЕМЛЯ

в государственных СМИ, где подается минимум информации про «выборы». Лидия Ермошина – единственный двигатель этого процесса. По телеканалам показывают только ее. Такое ощущение, что одна председатель ЦИК претендует на весь «парламент». Остальные кандидаты в «депутаты» не имеют доступа к республиканским СМИ», - поделилась Татьяна Ревяко.

### Уже известно, кто попадет в «палатку»

«Региональные СМИ пиарят тех, кого уже назначили сверху. Проанализировав региональные газеты, можно уже сказать, кто будет в «парламенте». Через месяц людям идти на «выборы», а с кого делать выбор? Только с тех, кого рекламируют государственные СМИ. Остальные какбудто под запретом», - подчеркнула правозащитница.

## АДКРЫЦЦЁ НЕЎРАЛАГІЧНАГА АДДЗЯЛЕННЯ

Урачыстае адкрыццё неўралагічнага аддзялення Бялыніцкай цэнтральнай раённай бальніцы адбылося ў першы дзень жніўня. Дагэтуль неўралагічныя ложкі размяшчаліся ў тэрапеўтычным аддзяленні. Зараз жа пацыенты маюць магчымасць атрымліваць усе неабходныя медыцынскія працэдуры ў добрых умовах. Агульная колькасць ложка-месцаў – 15.

Загадчыцай неўралагічнага аддзялення ЦРБ прызначана ўрач-неўролаг Ілона Рамашына, якая летась скончыла Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт.

***belynichi.gov.by***



### Анекдот дня

Нашедшего выход затаптывают первым.

ПАХОДНЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 08.08. 2012 г. у 19-00.